**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 34 (750) 21 жніўня 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



**Падсвілле адзначыла 90-я ўгодкі свайго заснавання.**
*Фота Леаніда Юрыка.*

Бешанковіцкі раён

# Узяліся за старое

■ Чэслаў Якубовіч

**У большасці рэгіёнаў вобласці сёлета адзначаецца зніжэнне ўзроўню злачыннасці і адначасова стала болей аператыўна раскрывацца і рэзанансных крымінальных спраў.**

Вось і днямі на чыгуначнай станцы Лётцы былі затрыманы двое жыхароў Шумілінскага раёна ва ўзросце 38 і 41 гадоў. Гэты крымінальны дуэт склаўся падчас чарговага адбыцця пакарання ў адной з калоній. Яны там пазнаёміліся і пасябравалі, бо займаліся раней адной справай: кралі і рабавалі людзей. У адну з летніх начэй парачка пасля папярэдняй падрыхтоўкі наведалася ў вясковы дом у Бешанковіцкім раёне. Там мярзотнікі у масках з фанарыкамі і драўлянымі бітамі ўварваліся ў спальню і жорстка збілі мужа з жонкай, забралі золата, 1 млн. рублёў і скрыліся ў цемры. Пазней гаспадар дома памёр у бальніцы ад атрыманых траўм, яго спадарожніца жыцця цудам выжыла і доўга лячылася. Праз тыдзень рабаўнікі па падобным сцэнарыі дзейнічалі ўжо ў адной з вёсак паблізу абласнога цэнтра. Там яны забралі з сабой таксама ювелірныя вырабы, мабільны тэлефон і яшчэ меней грошай, усяго 300 тысяч рублёў. На жаль, пасля жорсткага збіцця бітамі і другі гаспадар хаты памёр пасля тыдня лячэння ў бальніцы. Гэтымі злачынствамі заняліся лепшыя аператыўнікі абласнога Следчага камітэта, да расследвання спраў падключыліся перасоўная крыміналістычная лабараторыя і міліцыянеры з раёнаў. Былі апытаны сотні людзей, дэталёва прачэсана мясцовасць і гэта прынесла свой плён. Пасля затрымання па гарачых слядах у асабістых рэчах падазроных былі знойдзены рэчы, забраныя ў пацярпелых. Характэрна, што злачынцы планавалі абрабаваць багатых людзей, але памыліліся ў сваіх цынічных разліках, ад іх звярынай жорсткасці загінулі звычайныя людзі.

Полацкі раён

# Цягне народ у горад

■ Станіслаў Раманчук

**Вось ужо некалькі дзесяцігоддзяў колькасць насельніцтва глыбінкі імкліва скарачаецца, бо сельская моладзь перабіраецца жыць у буйныя гарады.**

Закранулі гэтыя працэсы і адзін з самых маладых гарадоў краіны Наваполацк, у якім ужо больш 100 тысяч чалавек насельніцтва. Маладыя сем'і імкнуцца тут асесці, бо заробкі ў нафтаградзе адны з самых вялікіх у Беларусі. Не спыняе іх і фактар дрэннай экалогіі, бо Наваполацк з'яўляецца самым брудным сярод гарадоў краіны. Толькі летась тут на аднаго жыхара прыпадала амаль па паўтоны шкодных рэчываў у паветры. З мясцовых заводаў-гігантаў нафтахіміі ў 2013 годзе выкіды ў атмасфернае паветра перавысілі 53 тысячы тон. Няпроста таксама людзям дыхаць і ў двух яшчэ самых брудных беларускіх гарадах Мінску і Гродне, але ж там нагрузка на лёгкія кожнага жыхара ў дзесяткі разоў меншая. Тым не менш у буйны прамысловы цэнтр над Дзвіной прыток людзей не змяншаецца, бо тут актыўней, чым у іншых месцах, вядзецца будаўніцтва жылля. З пачатку года шчаслівчыкам-навасёлам сярод навапалачан уручылі ключы ад новых кватэр у чатырох шматпавярхоўках. Яшчэ адзін жылы дом для сваіх работнікаў узвёў і нафтаперапрацоўчы завод "Нафтан". Неўзабаве для маладых сем'яў здадуць у эксплуатацыю і новенькі дзіцячы сад. Горад нафтахімікаў настолькі разросся, што ўшчыльную наблізіўся ўжо да суседняга старажытнага Полацка і мае планы далей развівацца і на другім беразе ракі Заходняя Дзвіна.

Пастаўскі раён

# Не прадасі – не пражывеш

■ Кастусь Александровіч

**Апошнім часам многія беларускія вытворцы сутыкнуліся са змяншэннем аб'ёмаў прадаж сваёй прадукцыі на расійскім рынку.**

Вось і ў Паставах адбыўся па гэтай прычыне рост складскіх запасаў на шэрагу асноўных бюджэтаўтаваральных прадпрыемстваў. Асабліва складанае становішча склалася на новым сырцэху Пастаўскага малочнага завода, дзе напрыканцы ліпеня на складах ляжалі без збыту цвёрдыя сыры на 45 млрд. рублёў. Таму завадчане ўздыхнулі з аблягчэннем, калі Расія ўнесла ў спіс забароненых да ўвозу заходніх тавараў менавіта сыры. На малзаводзе з радасцю пачнуць адгрузку сваіх сыроў расіянам, бо дагэтуль былі толькі адны размовы аб такіх пастаўках. Па іншым шляху пайшоў, каб прарваціца на расійскі рынак, другі буйны вытворца ў райцэнтры – прадпрыемства "Паставымэбля", спецыялісты якога на чале з дырэктарам на працягу тыдня плённа папрацавалі на буйной спецыялізаванай міжнароднай выставе ў Маскве. Яны там удзельнічалі ў тэндарных таргах, знайшлі новых дылераў і прывезлі дамоў дыплом за свой лепшы кухонны набор "Пастаўчанка" з высокаглянцавым фасадам. Па аб'ёмах прадаж сёння – яна па-за канкурэнцыяй, бо даволі танная, практычная і з элементамі мэблі экстра-класу. У Беларусі гэты выраб пастаўчан прызналі лепшым на нацыянальным мэблевым конкурсе. Таксама сёння не толькі сярод беларусаў карыстаецца попытам, лічыцца лепшай і мясцовая мэбля для школ, дзіцячых садкоў і ВНУ. Акрамя расіян пастаянныя пакупнікі на школьную мэблю з'явіліся ў Латвіі, Літве, Казахстане, зацікавіўся ёй і далёкі Катар.

# Аб самым надзённым

## ПАСЛЯ ПАВЕЛІЧЭННЯ ПАСТАВАК ХАРЧАВАННЯ Ў РАСІЮ І БЕЛАРУСЫ МОГУЦЬ СУТЫКНУЦЦА З ДЭФІЦЫТАМ ПРАДУКТАЎ



■ Аляксандр Цішкевіч

**У пэўнай ступені дадатковыя пастаўкі беларускага харчавання дапамогуць беларускім калгасам і прадпрыемствам мясамалпрама палепшыць сваё эканамічнае становішча. Вось толькі трэба не забываць, што сёлета да жніўня аб'ёмы беларускіх паставак ежы ў Расію былі ніжэйшыя ўзроўню мінулага года. Мы не вытрымлівалі канкурэнцыі, найперш з-за высокіх цэн, з іншымі канкурэнтамі.**

Працяглаcць дзяржаўнай граніцы Беларусі з Расійскай Федэрацыяй самая вялікая сярод нашых суседзяў і складае 1239 км. І варта толькі беларусу крыху далей праехаць углыб Пскоўшчыны, Смаленшчыны альбо Браншчыны, ён адразу пераканаецца, як у рускіх забяспечваецца харчовая бяспека. Увогуле ў расійскай правінцыі цяпер, асабліва ў нячэрназем'і, можна здымаць сапраўдныя фільмы жахаў, бо настолькі там усё запушчана, разбітыя дарогі, а насельніцтва апусцілася і дажывае свой век у беспрабудным п'янстве.

Таму і не дзіўна, што самая вялікая па плошчы ў свеце краіна з багацейшымі прыроднымі запасамі і рэсурсамі ўжо столькі часу не можа сама сябе пракарміць. Гэта ж вам не жартачкі, але Крэмль вымушаны траціць штогод дзясяткі мільярдаў долараў, каб проста пракарміць амаль 70 млн. чалавек, ледзь не палову свайго насельніцтва. І вось на гэтым жахлівым фоне крамлёўскі лідар У. Пуцін прыняў рашэнне акрамя халоднай вайны з ненавісным Захадам аб'явіць яшчэ і галодную вайну свайму народу. Ён, праўда, адразу пасля ўвядзення эмбарга на пастаўкі харчавання з ЗША, Еўрасаюза, Канады, Аўстраліі, Нарвегіі патэлефанаваў свайму беларускаму калегу і патлумачыў свой крок.

Падчас гэтай размовы бакі дамовіліся аб значным павелічэнні беларускіх паставак прадуктаў харчавання на расійскія прасторы. Сапраўды, яшчэ пад 7 млн. чалавек, усходніх суседаў беларусы могуць падтрымаць пастаўкамі ежы і зарабіць дадаткова валюты, якая так нам патрэбна з-за зніжэння валютарэзервных запасаў і ў цэлым не вельмі спрыяльнай эканамічнай сітуацыі. Мы можам таксама павялічыць і шэрыя схемы такіх паставак, завозіць нарвежскую рыбу, заходняе мяса, перапрацоўваць у сябе і прадаваць галодным рускім пад беларускімі этыкеткамі, бо гэта харчаванне з пэўнымі падставамі можа лічыцца айчыннай прадукцыяй.

Іншая справа, аб чым папярэджваюць эксперты, нарасціўшы аб'ёмы такіх паставак з мэтай добра зарабіць, мы на ўнутраным рынку можам сутыкнуцца (што і назіралася пару гадоў назад) з дэфіцытам асобных прадуктаў харчавання. Дарэчы, ежа ў Беларусі і зараз не танная, яе кошт як у самых дарагіх краінах Еўропы, а то і вышэй. Пакуль Крэмль бахваліцца сваёй быццам магутнасцю, паказвае зубы ва Украіне і цынічна плюе на цывілізаваны свет, аднак што гэта за псеўда-імперыя, якая не можа забяспечыць сваю харчовую бяспеку. Праўда, рускія ўжо забяспечылі сябе збожжам і амаль што мясам птушкі, а вось па астатніх пазіцыях, найперш мяса, малочныя вырабы, садавіна, гароднiна і нават бульба яны вымушаны былі завозіць якасную еўрапейскую і амерыканскую прадукцыю.

Зараз смешна слухаць, як абяцаюць рускім тэлегледачам не дапусціць росту цэн на харчаванне (мяса да эмбарга ў іх падаражэла сёлета на 20 %) і замежныя прадукты замяніць вырабамі ўласных сельгасвытворцаў, альбо пастаўкамі з Лацінскай Амерыкі. Канешне, татальнага дэфіцыту ежы на прылаўках расійскіх крам не будзе, але гэтыя дурныя крамлёўскія санкцыі, адказ Чэмберлену ўжо пагоршылі і яшчэ больш знізяць жыццёвы ўзровень простых расіян. Для параўнання, цяпер эканамічны патэнцыял ЕС у 10 разоў перавышае патэнцыял Расіі, а амерыканская эканоміка, хто не ведае, у 20 разоў больш моцная расійскай.

Санкцыі Захаду супраць Расіі за яе нахабную, агрэсіўную антыўкраінскую палітыку, па-сутнасці за неаб'яўленую вайну новага тыпу на Данбасе ўжо пачалі балюча дзейнічаць. Пра гэта гаворыць той факт, што адразу 7 рускіх турыстычных кампаній абанкроціліся ў разгар летняга сезона. На радзіме расійскага лідара ў Санкт-Пецярбургу піцерская рэстараны аб'явілі, што звольняць з працы неўзабаве да 30 тысяч чалавек. Нават сярэдні рускі клас вымушаны цяпер эканоміць, жыць па сродках, бо рост цэн на харчаванне ў Расіі прадоўжыцца і будзе значным, а міжнародная ізаляцыя нашых суседзяў толькі ўзмацніцца.

У пэўнай ступені дадатковыя пастаўкі беларускага харчавання дапамогуць беларускім калгасам і прадпрыемствам мясамалпрама палепшыць сваё эканамічнае становішча. Вось толькі трэба не забываць, што сёлета да жніўня аб'ёмы беларускіх паставак ежы ў Расію былі ніжэйшыя ўзроўню мінулага года. Мы не вытрымлівалі канкурэнцыі, найперш з-за высокіх цэн, з іншымі канкурэнтамі. Цяпер быццам рынак паставак стаў больш камфортны, але ж у айчыннай сельскай гаспадаркі другі год назіраецца спад вытворчасці.

Мы сутыкнуліся з АЧС, зніжэннем істотным пагалоўя свіней, кармоў не хапала, каб накарміць жывёлу і павялічыць прывагі. У сельскай гаспадарцы імгненна справы не паляпшаюцца, патрабуецца некалькі гадоў, каб навесці парадак на зямлі і палепшыць стан спраў на палях і фермах, да чаго рускім трэба імнуцца ў першую чаргу.

Надвор'е ў Глыбокім www. rp5ru

| | Чацвер 21.08.14 | | | | Пятніца 22.08.14 | | | | Субота 23.08.14 | | | | Нядзеля 24.08.14 | | | | Пн.25.08. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +11 | +14 | +16 | +11 | +9 | +12 | +18 | +13 | +11 | +14 | +18 | +16 | +13 | +14 | +17 | +14 | +13 | +12 | +15 |
| Ціск | 747 | 747 | 746 | 744 | 745 | 747 | 748 | 748 | 749 | 749 | 748 | 747 | 747 | 746 | 745 | 742 | 740 | 741 | 742 |
| Вільготнасць | 75 | 71 | 54 | 90 | 89 | 84 | 46 | 72 | 84 | 78 | 51 | 67 | 86 | 91 | 72 | 90 | 91 | 90 | 62 |
| Вецер м/сек | 2 Пд-З | 2 Пд | 2 Пд | 4 Пн-З | 3 З | 4 Пд-З | 4 З | 2 Пд-З | 2 Пд-З | 4 Пд-У | 3 Пд | 4 Пд | 3 Пд | 3 Пд-У | 5 Пд-У | 6 У | 3 Пд-З | 3 З | 3 З |

## Дзень за днём

**Такой працяглай спякоты і засухі Беларусь не бачыла апошнія 30 гадоў, з-за чаго ўраджай бульбы будзе слабым, перанеслі і сезон палявання. За паўгода з айчынных прадпрыемстваў звольнілі больш 18 тысяч чалавек. Зноў пачаліся перамовы аб аб'яднанні МАЗа з КамАЗам, якія цягнуцца чацвёрты год. З 2015 года мінчанам забароняць мець дачныя кааператывы без аплаты дагавораў арэнды купленых на аўкцыёнах зямельных участкаў. Беларусы таксама не змогуць выкупляць арэнднае жыллё. Нават у вядучых беларускіх вышэйшых навучальных установах недабралі студэнтаў на платную форму навучання.**

# Важнейшыя навіны свету

**Ізраіль.** Пасля знішчэння большай часткі падземных тунэляў экстрэмісцкай групоўкі ХАМАС армія краіны вывела свае войскі з Сектара Газы, там было шмат ахвяр.

**ЗША.** Меры У. Пуціна ў адказ на санкцыі Захаду, як заявіла ў Белым доме Лора Лукас, толькі ўзмацняць міжнародную ізаляцыю Расіі, прывядуць да росту цэн для рускіх.

**Гвінея.** Сусветны банк выдзеліў 200 мільёнаў долараў для аказання краіне і суседнім Ліберыі і С'ерра-Леоне экстранай дапамогі для барацьбы са страшнай інфекцыяй – вірусам Эбола.

**Германія.** Урад краіны разарваў кантракт на будаўніцтва ў Расіі сучаснага вучэбнага цэнтра камп'ютарнага мадэліравання ваенных дзеянняў і падрыхтоўкі ваенных.

**Аўстралія.** З-за збітага прарасійскімі баевікамі "Боінга" пад Данецкам урад краіны адмовіўся ад паставак у Расію мяса бараніны, да паловы мяса і малака РФ экспартуе.

**Расія.** Канфрантацыя з Захадам узмацнілася, у спіс забароненых Рассельгаснаглядам трапілі і амерыканскія віскі, пайшлі размовы аб забароне палётаў над тэрыторыяй РФ.

**Японія.** Услед за ЗША і ЕС урад краіны зацвердзіў дадатковы пакет санкцый супраць Расіі за яе агрэсіўныя дзеянні ў Крыме і на тэрыторыі Украіны, спыніў шэраг праектаў.

**Украіна.** Яшчэ летась вясной у У. Пуціна, як заявіў экс-глава адміністрацыі прэзідэнта С. Пашынскі, ужо быў план анексіі не толькі Крыма, але і тэрыторыі ад Харкава да Адэсы.

**Швейцарыя.** Урад краіны падтрымаў еўрапейскія санкцыі супраць Расіі і забараніў фінансавую дзейнасць 18 расійскіх кампаній, сюды не ўедуць дзясяткі рускіх багацеяў.

**Расія.** У разгар сезона водпускаў з-за негатыўнай палітычнай і эканамічнай сітуацыі вакол РФ, санкцый Захаду абанкроціліся ўжо 7 расійскіх турыстычных кампаній.

**Латвія.** Калі Расія ад пагроз, як адзначыў дзяржсакратар МЗС краіны А. Пілдэговіч, пачне гандлёвую вайну, то латышы будуць шукаць падтрымку ў СГА і ў Еўракамісіі.

**ЗША.** Вучоныя Масачусецкага тэхналагічнага ўніверсітэта, калегі з Ганконга і Канады падлічылі, што да 2050 года чалавецтву і, асабліва Афрыцы, будзе пагражаць голад.

**Японія.** Канцэрн "Тайота" аб'явіў аб пачатку серыйнага выпуску са снежня сваіх новых аўтамабіляў Furai, у перакладзе "будучае", з вадародным электрарухавіком.

**Расія.** Руская хакеры скралі ўжо 1,2 млрд. дадзеных інтэрнэт-карыстальнікаў, двое зладзеяў з дома-музея Левітана ў Іванаўскай вобласці забралі 5 яго знакамітых карцін.

**Кыргыстан.** Беларуская пасла выклікалі ў МЗС краіны для дачы тлумачэнняў аб узнагароджанні беглага экс-прэзідэнта К. Бакіева ў Мінску ордэнам "Дружбы народаў".

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Пры павелічэнні паставак прадуктаў у Расію дзеля валюты, як папярэдзіў эксперт С. Чалы, Беларусь можа напаткаць іх дэфіцыт, адродзяцца схемы рээкспарту харчоў.

**Мінск.** У Беларусі нават перад прэзідэнцкімі выбарамі, як заявіў вядомы эканаміст Л. Злотнікаў, не будзе росту зарплат з-за сітуацыі ў эканоміцы, зніжэння экспарту.

**Астравец.** Па пытанні будаўніцтва мясцовай АЭС, як заявіў глава МЗС Уладзімір Макей, Беларусь дасягнула з Літвой патрэбны кампраміс праз няпростыя перамовы.

**Мінск.** Міністэрства сельскага харчавання РБ аб'явіла аб гатоўнасці павялічыць пастаўкі ў Расію харчавання, асабліва сыроў, мяса і цэльнага малака, замяніць галандскую бульбу, польскія яблыкі.

**Пінск.** Праблемны гігант трыкатажнай галіны ААТ "Палессе" пачаў скарачэнне штату амаль на трэць, каля тысячы чалавек звольняць, яго страты перавысілі 66 млрд. рублёў.

**Мінск.** На свінакомплексах краіны А. Лукашэнка запатрабаваў мець меры біялагічнай бяспекі, як на ядзерных аб'ектах, і паабяцаў "драконаўскія меры" для правінўшыхся.

**Магілёў.** Пасля капітальнага рамонту на працягу 10 месяцаў коштам 60 млрд. рублёў адкрыўся рух транспарту па мосце даўжыней 309 метраў праз раку Днепр.

**Мінск.** У праслаўленай 120-й асобнай гвардзейскай механізаванай брыгадзе ў выніку рэдкай інфекцыйнай хваробы памёр салдат, прычынай смерці мог стаць ацёк мозгу.

**Шчучын.** Работніца дзетсада напісала яўку з пакаяннем у міліцыю аб тым, што яна крала грошы і аднойчы зняла з дзяўчынкі залатыя завушніцы, пакуль малая спала.

**Мінск.** Экспанаты і карціны Нацыянальнага мастацкага музея кожны жадаючы можна пабачыць на экскурсіях і з дапамогай аўдыёгіда на 3-х мовах, кошт паслугі 20 тыс. рублёў.

**Слаўгарад.** Пры спробе перайсці раку Проню ў месцы ўпадзення яе ў Сож патануў ля гарадскога пляжа 17-гадовы хлопец, выратавалі яго дзяўчыну, абое не ўмелі плаваць.

**Гродна.** Днём у выніку сутыкнення двух машын перавярнуўся міліцэйскі УАЗ, праз ветравое шкло выпаў на дарогу міліцыянер і атрымаў траўму галавы.

**Жодзіна.** За 2 гады, як паведаміла ўдава народнага артыста Беларусі Я. Навуменкі, не знайшлі забойцу яе мужа ў Севастопалі, цяпер справай заняўся новы расійскі следчы.

**Ліда.** Міліцыя адшукала 15-гадовага хакеіста адной з маскоўскіх каманд, які ехаў сюды на зборы і абакраў ноччу ў вагоне цягніка свайго ж дарослага суайчынніка з Расіі.

**Барысаў.** Лепшы айчынны футбольны клуб БАТЭ зноў парадаваў аматараў спорту і забяспечыў свой удзел у прэстыжных еўрапейскіх турнірах пад эгідай УЕФА.

## Кошт прыватызацыі некаторых кватэр у Віцебскай вобласці чыноўнікі завышалі ў два разы



■ Беларусь 1

**Вялікую колькасць парушэнняў выявілі дзяржаўныя кантралёры ў вырашэнні пытанняў прыватызацыі жылля ў Віцебскай вобласці. Заняцца гэтай праблемай ушчыльную вымусілі лісты людзей.**

Скаргі паступалі на валакіту з дакументамі, неабгрунтавана высокую цану, выстаўленую на прыватызуемае жыллё. Факты ў большасці сваёй пацвердзіліся. У асобных выпадках кошт прыватызацыі квадратных метраў была завышана больш чым у два разы, паведамляе тэлеканал Беларусь 1.

Сваю трохпакаёвую кватэру Валянціна Дзямідава атрымала ў якасці службовай. Працавала ў мясцовым калгасе. З тых часоў мінула шмат гадоў. Жыллё перайшло на баланс мясцовага ЖКГ, а жаданне прыватызаваць квадратныя метры адбіла цана пытання.

Валянціна Дзямідава, жыхарка г. п. Расоны: «Яшчэ раней людзі прыватызавалі кватэры ў лепшых дамах, чым наш, у іх цана была 50 мільёнаў - у мяне значна больш. Нават у ЖКГ мне казалі, што тут відавочна нейкая памылка ў разліках, але ніхто шукаць яе не збіраўся».

Са сваёй бядой жыхарка Росон звярнулася да старшыні Камітэта дзяржаўнага кантролю. У лістападзе мінулага года Аляксандр Якабсон праводзіў у райцэнтры прамую лінію. Паколькі гэта быў не першы зварот па пытаннях прыватызацыі, кіраўнік ведамства даручыў дасканала разабрацца.

Вынік праверак - множныя парушэнні. Так, прыватызацыя кватэры Дзямідавай апынулася рэальна на 94 мільёны менш.

Вадзім Валовіч, намеснік начальніка ўпраўлення КДК Віцебскай вобласці: «Сістэмная праца ў гэтым кірунку наладжана не была. Так, у Віцебску з памылкай была ацэненая адна з кватэр у шматкватэрным доме. Гарвыканкаму было прапанавана пералічыць кошт і іншых прыватызуемых кватэр у гэтым доме. Па выніках пераразліку кошт асобных жылых памяшканняў быў зменшаны ў два з паловай разы».

Дзякуючы ўмяшанню дзяржаўных кантралёраў шчасна адважылася кватэрнае пытанне цэлага дома ў Віцебскім раёне. Безгаспадарчасць у дакументах прывяла да таго, што будынак дзяржаўнага жыллёвага фонду адышоў на баланс аднаго з прадпрыемстваў. І ўласнік прыпісначыў жыхарам свой кошт прыватызацыі.

Квадратныя метры пенсіянерцы прапанавалі выкупіць за паўмільярда рублёў у гэтым двухкватэрным панэльным доме ў аграгарадку. Але, маркуючы па цане, можна падумаць, што гаворка ідзе пра таўнхаус у цэнтры горада.

Сутыкнуліся кантралёры і з зацягваннем тэрмінаў разгляду заяў аб прыватызацыі. Па законе гэтая працэдура не павінна перавышаць 30 дзён, а ў Аршанскім райвыканкаме з дакументамі працавалі па 9 месяцаў. Такіх фактаў нямала, таму Дзяржкантроль працягне правяраць, як прыватызуецца жыллё па ўсёй краіне.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Наваполацк.** У сярэдзіне жніўня ААТ "Нафтан" спыніў на месяц усе свае ўстаноўкі па перапрацоўцы нафты на планавы капітальны рамонт, за ім спыніцца НПЗ у Мазыры.

**Гарадок.** Ад многага прыйшлося ў раённым цэнтры адмовіцца падчас падрыхтоўкі да "Дажынак" з-за недахопу сродкаў, ад спонсараў не паступіла амаль 250 мільярдаў рублёў.

**Мёры.** Праверка Дзяржкантролю выявіла, што мясцовы мясакамбінат у парушэнне закона 4,5 млрд. рублёў дзяржпадтрымкі накіраваў на авансаванне калгасаў-даўжнікоў.

**Орша.** Самым смачным у Беларусі прызналі летам навінку мясцовага сырзавода – вагавае марожанае "Любі мяне" 4-х гатункаў па стандартах ЕС і на еўрапейскай лініі выпуску.

**Віцебск.** Начальнік генштаба беларускай арміі генерал-маёр А. Белаконеў паведаміў воінам 103-й асобнай мабільнай брыгады аб дэсанце ў 2015 годзе на Паўночны полюс.

**Мёры.** Для работнікаў узводзімага завода па вытворчасці белай бляхі пачалі будаваць першы 8-кватэрны жылы дом, на пляцоўцы для будучага завода знялі чорны грунт.

**Глыбокае.** З Германіі вярнуліся 12 вучняў школ раёна, на працягу 10 дзён удзельнічалі ў міжнародным праекце "II Сусветная вайна: догляд пахаванняў і аднаўленне месц памяці".

**Віцебск.** Ноччу ў адным з пакояў інтэрната домабудаўнічага камбіната пачаўся пажар з-за няспраўнага халадзільніка, прыйшлося эвакуіраваць 23 чалавекі, ніхто з іх не пацярпеў.

**Новалукомль.** Да свайго 50-годдзя цэнтральную плошчу горада ўпрыгожылі новыя свяцільнікі, адрамантавалі галоўны фантан, з'явіліся прыгожыя лаўкі для адпачываючых.

**Віцебск.** У прыгарадным Вымнянскім сельсавеце адкрылася каля возера 2-я па ліку аграсядзіба "Садко", першым госцем у ёй стала сям'я супрацоўніка тэлеканала НТБ.

**Паставы.** На ўлік у райбальніцу паставілі ўжо 25 чалавек, схільных да наркаманіі, сёлета міліцыя склала 20 пратаколаў аб вырошчванні людзьмі раслін з наркатычнымі рэчывамі.

**Бешанковічы.** На працягу 3-х дзён на тэрыторыі раёна праходзілі рэспубліканская спаборніцтвы па GPS-арыентыраванні аўтамабіляў "Спякота-2014".

**Віцебск.** Па рашэнні суда холдынг "Марко" выплаціць каля 19 млн. рублёў кампенсацыі уладальніку аўтамабіля, абкрадзенага ў паркінгу гандлёвага цэнтра"Марко-Сіці".

**Дуброўна.** Пасля абеду ля вёскі Шэкі на прасёлачнай дарозе не справіўся з кіраваннем матацыкла 57-гадовы мужчына, які ехаў без мотошлема і загінуў ад атрыманых траўм.

**Барань.** На базе мясцовага абласнога цэнтра алімпійскага рэзерву па конным спорце і конаводстве адбыўся адкрыты чэмпіянат Беларусі па конным трохбор'і.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

**"Той жа пан Дзмітры Корсак мае іменне айчызнае на імя Ластовіца двор…Кто таму ж двару людзі айчызныя сёлы на рубяжы маскоўскім Вярбілава, Загор'е, Яса, Колпіна. У тых сёлах дымоў 62, з тых людзей яму прыходзіць 11 коп і грошай 12."**

# На рубяжы маскоўскім

## *Група глыбоцкіх журналістаў і краязнаўцаў наведала горад Себеж у Пскоўскай вобласці.*

**Ул. Скрабатун**

Ужо з-за гэтых радкоў, з рэвізіі Полацкага ваяводства за 1552 год, якія вынесены ў эпіграф, можна адправіцца ў вандроўку. Ластовіца двор – гэта, натуральна, вёска Ластавічы каля Глыбокага. А вось, дзе тыя "... сёлы на рубяжы маскоўскім Вярбілава, Загор'е, Яса, Колпіна"? Дзе быў той рубеж маскоўскі ў 1552 годзе?

У часы напісання кнігі "Памяць. Глыбоцкі раён" было прынята лічыць, што Вярбілава – варыянт назвы вёскі Вольберавічы ў Докшыцкім раёне. Аднак, праз 20 гадоў, якія мінулі з таго часу, усё радыкальна змянілася! Ёсць інтэрнэт! Усяго пару секундаў - і мы, са здзіўленнем, даведваемся, што Вярбілава, Загор'е, Яса і Колпіна знаходзяцца ў Пустошкінскім раёне Пскоўскай вобласці! Так! Тут і быў рубеж маскоўскі! Праходзіла мяжа (рубеж) паміж Масковіяй і Вялікім Княствам Літоўскім. Гэта значыць, што землі Корсакаў былі на самай мяжы з маскавітамі.

Але гэта – не ўсё! У адным з даведнікаў па Пскоўскай вобласці чытаем: ***"В дер. Вербилово в конце 16 века построен Вербиловский монастырь, основал его мстиславский воевода Иосиф Корсак, когда эти земли принадлежали Речи Посполитой. Изначала он организовывался как мужской католический униатский, затем был преобразован в православный, а в 1896 году в женский (православный).***

***Кстати, портрет Корсака долгое время хранился в Вербиловской церкви, но после 1918 года был передан в Себежский краеведческий музей, где и сейчас находится".***

Неверагодна! Яшчэ адзін партрэт Язэпа Корсака? Сенсацыя! Едзем у Себеж!

– Няма ў нас партрэта Корсака!– кажа дырэктар музея Аляксей Пятрэнка. – Гэта – журналісцкая "качка". Не люблю журналістаў! Калі б у нас быў партрэт Корсака, то ён вісеў бы на самым бачным месцы, а не пыліўся ў запасніках музея. Пры гэтым Корсак для нас – не такая ўжо і важная персона, у нас хапае і сваіх выбітных людзей. Але Корсакі і Агінскія ў Себежы "наслядзілі". Корсакі маюць дачыненне і да пабудовы нашага касцёла (цяпер царква).

Іншая справа – яшчэ не факт – што гэтага партрэта тут ніколі не было! У гады нямецкай акупацыі музей цалкам разрабавалі і пасля вайны прыйшлося наноў збіраць экспанаты. Ад даваеннага музея засталося хіба што пару цікавых камянёў, якія сюды былі прывезеныя. Сляды партрэта Корсака згубіліся!

Трэба аддаць належнае Аляксею Пятрэнку – ён выдатна разумее спецыфіку і адметнасць свайго краю. Паводле яго слоў, жыхары Пскоўскай вобласці лічуць сябе скабарамі, аднак ні самі жыхары Себежа, ні іншыя жыхары Пскоўскай вобласці себежцаў да скабароў не залічваюць. Калі выдаецца нейкая кніга аб культуры ці этнаграфіі Пскоўшчыны, то Себеж там не прысутнічае, яго, быццам, і няма ў Пскоўскай вобласці. Тое ж датычыць, дарэчы, і горада Невеля.

У экспазіцыі музея – арыгінальная мапа Віцебскай губерні, да якой Себеж належыў да 1924 года.

– Мне, напрыклад, пофіг,– нечакана прызнаецца дырэктар,– быў бы гэты горад сёння беларускім ці расійскім – і там, і там – свае плюсы і мінусы!

Побач з мапай – герб Пагоня, гарадскі герб Себежа часоў ВКЛ і Полацкага намесніцтва, факсімільная мапа Рэчы Паспалітай, прывезеная з Варшавы, дзе Себеж адзначаны "на рубяжы маскоўскім".

Аляксей Пятрэнка нават раіў нам наведаць канкрэтныя вёскі, дзе і да сёння размаўляюць па-беларуску, туды нават прыязджаюць этнографы, запісваюць фальклор. Аднак, гэта не было ў нашых планах, паездка і так была насычанай.

Пасля Себежа наша група (а нас было сем чалавек) накіравалася ў вёску Анінск (Анінскае). Гэта было ў нашых планах, сюды ж раіў наведацца і Аляксей Пятрэнка.

Пасярод вёскі валяецца надмагільны помнік Пятру Корсаку, які, невядома з якой прычыны, прыцягнулі сюды з цвінтара. Анінск уражвае сваімі старымі дубовымі прысадамі. Дубы – у тры абдымы, пэўна ім гадоў па 300! Уся вёска патанае ў ценю гэтых волатаў. Вялізны стары парк на беразе возера. А навокал – адны руіны! Трава ў рост чалавека - ідзеш навобмацак, і раптам, упіраешся ў руіну, рэшткі нейкай пабудовы.

– Вось чаго рускія папёрліся ва Украіну! Данецк і Луганск ім спатрэбіліся! Свая зямля прападае!– нагадуе Генадзь Плавінскі.

Разумею, што і ў нас на Беларусі не ўсё ладна з помнікамі даўніны, але тут сітуацыя яшчэ больш трагічная! Гэта ў нас, у Глыбокім, Язэп Корсак ледзьве не нацыянальны герой і помнік яму стаіць. А для жыхароў Пскоўшчыны Корсакі – "литовские захватчики", якія хацелі "поработить" рускія землі. Ну і што з таго, што беларусы заўсёды лічылі гэтыя землі сваімі. Цяпер тут Расія! І гісторыю яна піша па свайму інтэлекту. Гэта мы самі сабе можам сказаць: беларусы адваёўвалі свой жа горад, як цяпер украінская армія адваёўвае свае ж украінскія гарады Данецк і Луганск ад прышлых тэрарыстаў.

На фоне ўсяго гэтага грандыёзнага запусцення звяртаюць на сябе ўвагу руіны 2-паверховага будынка, дзе ўсё яшчэ праглядаюцца рысы вытанчанага стылю барока. Меркавана, дом упраўляючага маёнткам Анінск. Як паведаміў адзін мясцовы жыхар – будынак некалі быў узарваны. Цэлым у колішнім маёнтку застаўся толькі адзін будынак – 2-павярховы флігель. Хтосьці тут жыве, на франтоне – спадарожнікавая антэна. Адзінае месца, дзе скошаная трава!

У Вярбілава мы не паехалі, шмат часу згубілі на пошукі Анінска. Расія! Як знойдзеш, калі дарожных указальнікаў няма.

Спадарства! Браты! Што гэтыя рускія ядуць? Колькі мы не калясілі па Себежчыне – ніводнага калгаснага поля так і не ўбачылі. Гародаў у людзей няма! Адны дзяды, чартапалох ды баршчэўнік вышэй за хаты! Ніводнай каровы, каня ці казы! Хоць яны паскубалі б гэтую траву! Няма! Вакол адны бясконцыя лясы, балоты і азёры! Узбочыны дарог няскошаныя! Усё гэта можа чакаць і нас, калі забудзем – хто мы ёсць!

Што праўда, народ тут добры. Запытай нешта – растлумачаць усё да драбніцаў, а толькі потым пацікавяцца – адкуль вы? Себеж вельмі спадабаўся. Азёры што моры! Амаль памерамі з Нарач! Цікавая старадаўняя забудова. Але, Расія – вялікая, што ёй Себеж, нават не кропля, а дзясятая частка кроплі ў "рускім моры". Застаўся б ён у Віцебскай вобласці, то быў бы топавым горадам іншай краіны. Цукеркай выглядаў бы да Дажынак ці Дня пісьменства!

Дарэчы, пра выбітных себежцаў... У цэнтры Себежа – помнік Зіновію Яфімавічу Гердту, які нарадзіўся тут у 1916 годзе, яшчэ Віцебскай губерні. Так, так! Панікоўскі з "Залатога цяля". Себеж як і Глыбокае – колішнія яўрэйскія мястэчкі, дзе колькасць яўрэяў дасягала да 60 адсоткаў.



**Аляксей Пятрэнка, дырэктар Себежскага краязнаўчага музея апавядае глыбачанам аб гісторыі стварэння музея і яго экспанатах.**



**Алея з 300-гадовых дубоў у разлеглым парку колішняга маёнтка Анінск.**



**Надмагільны помнік Пятру Корсаку (1796-1862) сцягнулі з цвінтара і пакінулі пасярод вёскі Анінск.**



**Вёска Анінск (Анінскае), Себежскі раён. Сядзіба Корсакаў. Руіны дома ўпраўляючага маёнткам Анінск.**




**Яшчэ жыве памяць аб Вялікім Княстве Літоўскім! Вёска Літвінава, Себежскі раён. Літвінамі ў даўнія часы называлі сённяшніх беларусаў.**

# На свяце ніхто не адчуваў сябе чужым



Журы займаецца дэгустацыяй страў.

**У суботу 16 жніўня ў Лепелі на базе пансіяната "Ладэ" адбыўся IV фестываль беларускай кухні.**

■ **Зміцер Лупач,** *тэкст і фота*

У мерапрыемстве ўзялі ўдзел кухары і кулінары як з Лепеля, так і з суседніх мясцін. Акрамя іх на свята былі запрошаныя народныя майстры, самадзейныя артысты, прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі.

Імпрэза была арганізаваная пансіянатам "Ладэ", які з'яўляецца структурнай адзінкай медычнага цэнтра "Ладэ" ў Мінску, і Лепельскім райвыканкамам. Адразу хочацца адзначыць добрую арганізацыю мерапрыемства, свята прайшло без лішняй ідэалагічнай накіраванасці, што аб'ядноўвала людзей, ніхто не адчуваў на ім сябе чужым.

Паспрыяла святу і надвор'е, і сама прыгажосць вострава, дзе адбывалася святкаванне. Праўда, востравам яго назваць можна ўмоўна, вузкім перашыйкам ён усё ж злучаецца з берагам, што таксама добра – да "Ладэ" можна даехаць на аўтамабілі. Праўда, спякотнае надвор'е, якое стаяла ў той дзень мела адзін адмоўны эфект – на свята зляцелася шмат восаў, тым больш, што пачастункаў там было шмат. Але гэта не сапсавала агульны святочны настрой.

Яшчэ раз хачу адзначыць добра прадуманую арганізацыю свята. Гасцей сустракалі супрацоўнікі пансіяната, якія дапамагалі размясціцца тым, хто прыехаў са сваімі вырабамі, падказвалі, дзе паставіць аўтамабіль, частавалі кавай або гарбатай. Гучалі добрыя вясёлыя песні, прычым не толькі на рускай мове, але і на ўкраінскай, і, вядома, на беларускай. І не дзіва, музычным кіраўніком у пансіянаце працуе Аляксандр Балотнік, вядомы кампазітар і спявак. Ён найбольш вядомы як аўтар музыкі да песні "Чарка на пасашок", словы да якой напісаў вядомы паэт Уладзімір Някляеў.

І вось гасцей запрашаюць да сцэны. Побач знаходзіцца вялікі стол, які застаўлены апетытнымі стравамі, што падрыхтаваныя да конкурсу. Стол пакуль што зацягнуты чырвонай стужкай. Дырэктар пансіяната Валянціна Казакова запрашае на сцэну намесніка старшыні Лепельскага райвыканкама па эканоміцы Аляксандра Аксяновіча і просіць яго адкрыць мерапрыемства. Пасля кароткай прамовы арганізатары абіраюць журы, якое будзе ацэньваць якасць прыгатаваных на конкурс страў. Каб быць больш аб'ектыўнымі, у журы ўключаюць і дзяцей.

Наступае доўгачаканы момант – Аляксандр Аксяновіч праразае стужку і журы пачынае дэгустацыю. Удзельнічаць у ёй запрашаюць і гасцей мерапрыемства. Тут нікога ўгаворваць не трэба, жадаючых знайшлося вельмі шмат, вядучаму нават прыйшлося папрасіць усё ж прапусціць у першую чаргу журы.

Хачу адзначыць, што пакаштаваць гэтую смакату змаглі ўсе. Можа не кожную страву, але ж яды хапіла ўсім. Тым больш, што побач смажылася і парася на ражне, і шашлыкі, і дранікі, палявая кухня варыла суп і кашу, была і гарбата на травах - усяго і не пералічыць. І ўсё для гасцей, ды яшчэ і бясплатна.

Пасля ўсе жадаючыя маглі ўдзельнічаць у майстар-класе па выразанні розных фігурак з садавіны і гародніны, які арганізавалі супрацоўнікі пансіяната. Цяжка было паверыць, што прыгожыя букеты кветак, фігурка сабакі выразаныя з гарбузоў, кабачкоў, кавуноў, яблыкаў…

Не заставаліся па-за ўвагай і народныя майстры. Мастакі з Лепеля бацька і сын Алесь і Ігар Саўчанкі пісалі партрэты. На працягу ўсяго свята сядзець склаўшы рукі ім не прыйшлося – жадаючых было шмат. Трэба адзначыць, што адмыслова для пансіяната Алесь выразаў з дрэва фігуры дзеда з бабай, якія ўсталяваныя непадалёк ад уязной брамы каля дэкаратыўнага калодзежа.

Уражэнец Лепеля Леанід Саўчанка, які жыве зараз у Віцебску – знакаміты разбяр. Ён прывёз на свята шмат сваіх вырабаў, а драўляныя лыжкі рабіў проста падчас мерапрыемства. "Я сам з Лепеля, а жыву ў Віцебску. Але заўсёды прыязджаю на сваю радзіму, хаця радзіма ў нас адна – Беларусь", – сказаў майстар.

Мастак з Глыбокага Віктар Дудкевіч прыехаў на свята не толькі са сваімі вырабамі, але і з друкарскім станком. Прыблізна на такім станку некалі працавалі нашы знакамітыя друкары Францыск Скарына і Сымон Будны. За невялікую плату жадаючыя маглі надрукаваць сабе цытату з Бібліі: "Въ начале сътвори Богъ небо и землю". Паводле слоў Віктара, у наступным фестывалі ён будзе ўдзельнічаць ужо не толькі як рамеснік, але і як кулінар.

І вось наступае доўгачаканы момант свята – будуць названыя пераможцы. Гран-пры фестывалю атрымлівае страва Марыі Драгун і Анастасіі Шчарбаковай "Кракадзіл у балоце". Усіх вельмі цікавіла: з чаго ж прыгатаваная такая смаката? Бо нават журы, дэгустуючы гэту страву, не прыйшло да адназначнай высновы. Жанчыны паведамілі, што рэцэпт вельмі просты – дражджавое цеста, якое начыненае грыбамі, яйкам і курыцай. Складнікі то простыя, а вось, каб такое прыгатаваць, патрэбна сапраўднае майстэрства. Праўда, некаторыя госці заўважылі, што фестываль беларускай кухні, а кракадзіл – не характэрная для Беларусі жывёла." Затое балота характэрнае," – хуценька адказалі ім апаненты.

Першае месца атрымаў Анатоль Кляпацкі за страву "Рыба з Вароніч". Трэба сказаць, што майстар добра падрыхтаваўся да конкурсу: не толькі зламіў рыбу і смачна яе прыгатаваў, але і прыгожа аформіў. Для гэтага ён зрабіў адмысловы дубовы паднос, які пакрыў харчовым лакам. Не засталіся без узнагарод і іншыя ўдзельнікі мерапрыемства.

Арганізатары ўзнагародзілі таксама і ўсіх народных майстроў, што ўдзельнічалі ў свяце. Акрамя прызоў усе яны атрымалі яшчэ па смачным торце. Сярод іншых былі адзначаны і наш зямляк Віктар Дудкевіч з Глыбокага. Хацелася б выказаць адну заўвагу арганізатарам мерапрыемства: праходзіў фестываль беларускай кухні, а вось беларускай мовы на імпрэзе было малавата. Але глыбоцкі мастак годна прадставіў Глыбокае – яго выступ быў на беларускай мове. І вядучы яму адказаў па беларуску:

– Вялікі дзякуй, што вы мяне так ацанілі. Я ўжо другі раз у гэтым годзе на Лепельшчыне, а на такім мерапрыемстве першы раз. Але ў мяне ўжо такое ўражанне, што я не з Глыбокага, а з Лепеля.

– Вам таксама ўсяго добрага.

На свяце было шмат музыкі і песень. Хацелася б адзначыць выступ гурта "Бліскавіца", які адкрываў святочны канцэрт. Адзначылася на свяце і будучая ўдзельніца дзіцячага Еўрабачання Улада Дарашэвіч. Дарэчы, арганізатары мерапрыемства таксама пра яе не забыліся, уручылі ёй прыз.

Удзельнікаў і гасцей імпрэзы запрасілі пракаціцца на прагулачным кацеры па Лепельскім возеры. Жадаючых было шмат, таму камандзе кацера прыйшлося рабіць некалькі рэйсаў. Прагулка была вельмі цікавай, бо возера і наваколле вельмі прыгожыя. Свята працягвалася да самага вечара і завяршылася феерверкам.

Напрыканцы хацелася б падзякаваць арганізатарам фэсту за запрашэнне. Асабіста хачу падзякаваць дырэктару пансіяната Валянціне Казаковай за яе гасціннасць, дзякуючы якой ніхто на гэтым свяце не адчуваў сябе забытым.



Віктар Дудкевіч за працай.



Страва "Кракадзіл у балоце". Гэта страва атрымала гран-пры фэсту. Прыгатавалі Марыя Драгун і Анастасія Шчарбакова.



Страва "Рыба з Вароніч", якая заняла першае месца. Зламіў і прыгатаваў гэту рыбу Анатоль Кляпацкі.



Мастакі Саўчанкі за працай.



**УВАГА! Веласіпедыст!**

# Паклапаціцеся аб сваёй бяспецы




**Наздымку:** пераможца конкурсу «Велаледзі 2014» Кацярына Дмітрыева

**Паважаныя ўладальнікі веласіпедаў! Мы лічым сваім абавязкам нагадаць Вам, што з пачаткам восені і скарачэннем светлавога дня павялічваецца колькасць наездаў транспартнымі сродкамі на веласіпедыстаў, што прыводзіць да цяжкіх наступстваў, у тым ліку і да гібелі (на тэрыторыі нашага раёна з пачатку гэтага года адзін веласіпедыст загінуў і адзін атрымаў цяжкія раненні).**

■ **Заяц Ю.В.,** *часовы выканаўца начальніка АДАІ Глыбоцкага РАУС, маёр міліцыі*

З мэтай папярэджання дарожна-транспартных здарэнняў з удзелам веласіпедыстаў мы прапануем усім веласіпедыстам не чакаць наступлення восені, а загадзя набыць святлоадбівальныя камізэлькі і выкарыстоўваць іх не толькі ў начны час, але і днём.

З кожным годам у нашай краіне ўсё больш становіцца папулярным як від спорту – катанне на веласіпедзе. Наяўнасць вялікай колькасці веласіпедаў на дарогах ўскладняе ўмовы руху, а невыкананне веласіпедыстамі правілаў дарожнага руху прыводзіць да дарожна-транспартных здарэнняў з цяжкімі наступствамі.

Неабходна выконваць асноўныя патрабаванні Правілаў дарожнага руху (глава 20), якія кажуць, што:

■ Рух на веласіпедзе павінен ажыццяўляцца па веласіпеднай дарожцы, а пры яе адсутнасці – па абочыне, тратуары або пешаходнай дарожцы, не ствараючы перашкоды для бяспечнага руху пешаходаў. Пры адсутнасці названых элементаў дарогі ці немагчымасці руху па іх дапускаецца рух веласіпедыстаў па праезнай частцы дарогі ў адзін шэраг не далей за 1 метр ад яе правага краю. Пры гэтым:

● выезд далей за 1 метр ад правага краю праезнай часткі дарогі дапускаецца толькі для аб'езду перашкоды і ў дазволеных выпадках для павароту налева або развароту;

● калоны веласіпедыстаў пры руху па праезнай частцы дарогі павінны быць падзелены на групы не больш чым па 10 веласіпедыстаў. Адлегласць паміж групамі павінна складаць не менш за 100 метраў;

● пры наяўнасці на праезнай частцы дарогі лініі гарызантальнай дарожнай разметкі 1.2, якая пазначае яе край, гэтая лінія павінна размяшчацца злева ад веласіпедыста.

■ Пры руху па дарозе ў цёмны час сутак і (або) пры яе недастатковай бачнасці на веласіпедзе або мапедзе павінны быць уключаны: спераду – фара (ліхтар), якая выпраменьвае белае святло, ззаду – ліхтар, які выпраменьвае чырвонае святло.

■ Па-за скрыжаваннямі на нерэгуляваным перасячэнні веласіпеднай дарожкі з дарогай веласіпедыст абавязаны саступіць дарогу транспартным сродкам, якія рухаюцца па гэтай дарозе.

■ Пры перасячэнні праезнай часткі дарогі па пешаходным пераходзе веласіпедыст павінен весці веласіпед побач з сабой і кіравацца патрабаваннямі, прадугледжанымі дадзенымі Правіламі для руху пешаходаў.

■ Рух на мапедзе павінен ажыццяўляцца па абочыне або праезнай частцы дарогі не далей за 1 метр ад правага краю праезнай часткі. Пры гэтым выезд далей за 1 метр ад яе правага краю дапускаецца толькі для аб'езду перашкоды і ў дазволеных выпадках для павароту налева або развароту.

**Веласіпедысту і кіроўцу мапеда забараняецца:**

● выкарыстоўваць тэхнічна няспраўныя веласіпеды і мапеды, а таксама абсталяваныя з парушэннем патрабаванняў тэхнічных нарматыўных прававых актаў;

● рухацца, не трымаючыся за руль і (або) не трымаючы ногі на педалях (падножках);

паварочваць налева або разварочвацца на дарозе, якая мае трамвайны шлях, і на дарозе, якая мае больш за адну паласу для руху ў дадзеным напрамку;

● рухацца па дарозе ва ўмовах снегападу і (або) галалёдзіцы;

● перавозіць пасажыраў, за выключэннем перавозкі дзяцей ва ўзросце да сямі гадоў на дадатковым спецыяльна абсталяваным сядзенні;

● перавозіць грузы, якія выступаюць больш чым на 0,5 метра па даўжыні або шырыні за габарыты транспартнага сродку, а таксама грузы, якія замінаюць кіраванню гэтым транспартным сродкам.

Забараняецца без суправаджэння паўналетняй асобы кіраваць на дарозе асобам, маладзейшым за:

■ чатырнаццаці гадоў – веласіпедам (акрамя пешаходных і жылых зон, тратуараў, веласіпедных і пешаходных дарожак);

■ шаснаццаці гадоў – мапедам (акрамя пешаходных і жылых зон).

Кіроўцу мапеда забараняецца ездзіць па тратуарах, веласіпедных і пешаходных дарожках, дарожках для коннікаў.

Забараняецца буксіроўка веласіпеда і веласіпедам, за выключэннем веласіпеднага прычэпа прамысловай вытворчасці.

Звяртаем ўвагу веласіпедыстаў на тое, што за кіраванне веласіпедамі з парушэннямі вышэйзгаданых правілаў будуць прымяняцца самыя строгія меры адміністрацыйнага ўздзеяння ў выглядзе штрафу ад 1 да 3-х базавых велічынь, а калі веласіпедыст будзе знаходзіцца ў стане алкагольнага ап'янення, то штраф складзе 5 базавых велічынь.

Раім абсталяваць з мэтай бяспекі дарожнага руху свае веласіпеды ў адпаведнасці з Правіламі пункт 200. Веласіпед павінен мець спраўную тармазную сістэму, рулявое кіраванне і гукавы сігнал, быць абсталяваны люстэркам задняга віду, спераду святлоадбівальнікам белага колеру, ззаду – святлоадбівальнікам (святлоадбівальнікамі) чырвонага колеру, а з кожнага боку – святлоадбівальнікамі аранжавага колеру.

Таксама хацелася б звярнуць увагу на тое, што ў апошні час з'явілася вялікая колькасць веласіпедаў з падвясным рухавіком, а згодна з Правіламі дарожнага руху – мапед – механічны транспартны сродак, які прыводзіцца ў рух рухавіком з рабочым аб'ёмам да 50 кубічных сантыметраў і які мае максімальную канструктыўную хуткасць руху не больш за 50 км/г. Да мапедаў прыраўноўваюцца веласіпеды з падвясным рухавіком, мокікі і іншыя механічныя транспартныя сродкі з аналагічнымі характарыстыкамі. Гэта значыць такія транспартныя сродкі з'яўляюцца мапедамі з усімі вынікаючымі наступствамі, а менавіта вадзіцелі мапедаў павінны кіраваць ім у шлеме, мець вадзіцельскае пасведчанне на права кіравання ім, мапед павінен быць зарэгістраваны, застрахаваны і прайсці дзяржаўны тэхнічны агляд.

Гэтыя ісціны прапісаны ў Правілах дарожнага руху, ад сябе хацелася б дадаць, што калі Вы кіруеце веласіпедам – старайцеся гэта рабіць у вопратцы яркіх колераў (аранжавы, каралавы, чырвоны, жоўты, салатавы), гэтым Вы зможаце прыцягнуць большую ўвагу вадзіцеляў механічных транспартных сродкаў і зрабіць паездку на веласіпедзе яшчэ больш бяспечнай.

**Паважаныя ўдзельнікі дарожнага руху, паклапаціцеся аб сваёй бяспецы і бяспецы родных і блізкіх!**

# Не забудзьцеся ўключыць бліжняе святло!




**З 25 жніўня па 5 верасня на тэрыторыі нашай краіны праводзіцца спецыяльны комплекс мерапрыемстваў пад назвай «Увага – дзеці!», якія накіраваныя на папярэджанне дзіцячага дарожна-транспартнага траўматызму.**

■ **Заяц Ю.В.,** *часовы выканаўца начальніка АДАІ Глыбоцкага РАУС, маёр міліцыі*

Найвышэйшай каштоўнасцю дзяржавы з'яўляецца чалавечае жыццё. І самае вялікае гора для бацькоў – гібель дзіцяці!

Летні перыяд характарызуецца падвышанай небяспекай ў сферы бяспекі дарожнага руху. У гэтую пару года павялічваецца рызыка ўчынення дарожна-транспартных здарэнняў з удзелам дзяцей і падлеткаў.

**Паважаныя вадзіцелі!** Просім Вас паклапаціцца пра дзяцей і выкарыстоўваць пры перавозцы дзяцей пасіўныя сродкі бяспекі: дзіцячыя ўтрымлівальныя крэслы, рамяні бяспекі, мотаўшлемы – яны выратуюць ім жыццё і паменшаць цяжкасць наступстваў пры ўчыненні дарожна-транспартных здарэнняў.

У ходзе мерапрыемстваў «Увага-Дзеці!» супрацоўнікі аддзела ДАІ правядуць выступы ва ўстановах адукацыі, у некаторых працоўных калектывах раёна, на інфармацыйных стэндах прадпрыемстваў і арганізацый будуць размешчаны ўлёткі з інфармацыяй прафілактычнай накіраванасці. У гэтыя дні будзе ўзмоцнены нагляд за дарожным рухам у месцах найбольшай верагоднасці ўчынення дарожна-транспартных здарэнняў з удзелам дзяцей.



**Паважаныя дарослыя!** Клопат аб дзецях – наша агульная справа. Безнагляднасць дзяцей, гульні і свавольствы на дарогах, раптоўнае з'яўленне паблізу транспарту, абыякавае стаўленне да гэтага дарослых – вось асноўныя прычыны няшчасных выпадкаў з дзецьмі на дарогах. Мы звяртаемся да Вас з просьбай: убачыўшы дзяцей, якія гуляюць на праезджай частцы дарогі ці каля яе, не заставайцеся абыякавымі, зрабіце ім заўвагу, паспрабуйце прыняць меры, каб ізаляваць іх ад патоку транспарту. Прывучайце сваіх дзяцей да дарожнай дысцыпліны, выхоўвайце ў іх пачуццё асцярогі пры пераходзе праезджай часткі, штодня нагадвайце ім аб захаванні Правіл дарожнага руху, самі служыце прыкладам сваім дзецям!

**Паважаныя бацькі!** На вуліцы, будзьце асабліва асцярожныя з дзецьмі-дашкольнікамі. Не пакідайце іх без нагляду. Памятаеце, што нават адзін няправільны крок дзіцяці на праезджай частцы дарогі, дзе магчымы рух транспарту, можа прывесці да няшчасця.

**Паважаныя вадзіцелі!** Вы абавязаны быць вельмі асцярожнымі і ўважлівымі пры праездзе міма дзіцячых пляцовак, прыпынкаў грамадскага транспарту, дзіцячых садкоў і школ, пры праездзе пешаходных пераходаў.

**У адпаведнасці з падпунктам 166.9 пункта 166 Правіл дарожнага руху** ў перыяд правядзення Міністэрствам унутраных спраў рэспубліканскіх спецыяльных комплексных мерапрыемстваў «У светлы час сутак для абазначэння рухаючага транспартнага сродку павінна быць уключанае блізкае святло фар» **з 25 жніўня па 5 верасня ўсе вадзіцелі транспартных сродкаў абавязаны перасоўвацца з уключаным блізкім святлом фар у светлы час сутак.**

За невыкананне гэтага патрабавання прадугледжана адміністрацыйная адказнасць па частцы 3 артыкула 18.14 Да АП Рэспублікі Беларусь «парушэнне асобай, якая кіравала транспартным сродкам, правілаў руху па аўтамагістралі, карыстанне знешнімі светлавымі прыборамі, буксіроўкі транспартных сродкаў, а таксама парушэнне правілаў прымянення аварыйнай сігналізацыі і знака аварыйнага прыпынку – цягнуць папярэджанне або накладанне штрафу ў памеры да дзвюх базавых велічынь...

